


# наша Слова

Штотыднёвік
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 50 (314) 12 — 18 снежня 1996 г.

Кошт -- 1000 рублёў





**-праграма**


**ТАК, НАМ ПАТРЭБНА СУПОЛЬНАСЦЬ** Стар.2.

**ХАЦЕЎ ДАБРА СВАЙМУ НАРОДУ** Стар.4.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У Лісабоне прайшла сустрэча на вышэйшым узроўні дзяржаў — удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.** Беларускую дэлегацыю ўзначальваў Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка. Беларусь на сустрэчы дзяржаў — удзельніц АБСЕ не была ў цяні і ўсё гэта з-за рэферэндуму, які нядаўна ў нас прайшоў.

❍ ***У Менску ў Доме літаратара адбылося пасяджэнне Камітэта абароны дэмакратыі,*** *які быў заснаваны на базе розных палітычных партый і рухаў, а таксама той часткі дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія не зміры ліся з вынікамі нядаўняга рэферэндуму. Быў прыняты зварот да беларускага народа і сусветнай супольнасці.*

❍ **Споўнілася 5 гадоў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.** Юбілей прайшоў незаўважна, але не абышлося без крытыкі "белавежскіх зуброў", якія ўжо не пры ўладзе.

❍ ***У выдавецтве "МакМілан" (агульнымі намаганнямі ЗША, Англіі, Канады) выдадзена кніга "Беларусь ад развалу СССР да ядзернай катастрофы".*** *Напісаў яе Дэвід Марпалз, прафесар расійкай гісторыі ў канадскім універсітэце горада Альберта, які больш за тры гады жыў у Беларусі, працаваў з архіўнымі дакументамі і сустракаўся з людзьмі. Кніга выйшла 10-тысячным тыражом і набыць яе практычна немагчыма.*

❍ **Па ацэнках экспертаў у нетрах Беларусі знаходзіцца каля 100 тон золата.** Добра было б, калі б у нашай краіны хаця б палову гэтай колькасці золата было ў казне!

❍ ***На сённяшні дзень у нашай краіне дзейнічаюць 20 недзяржаўных і 39 дзяржаўных вышэйшых навучальных установ.*** *На жаль, у пераважнай большасці з іх беларуская мова амаль не ўжываецца. Але ж па Канстытуцыі ў нас роўнасць моў. Ці роўнасць яшчэ будзе?*

❍ **У Маскве падпісаны пратакол аб узаемадзеянні** паміж Дзяржкамітэтам па друку Рэспублікі Беларусь, Інтэграцыйным камітэтам і **Выканкамам Садружнасці** Беларусі і Расіі. Гэта стала лагічным вынікам Дня беларускай прэсы ў выканаўчых органах Садружнасці "чатырох" і "дзвюх".

❍ ***Рок-гурту "Мроя" споўнілася 15 гадоў. Віншуем!***

❍ **Старшыня Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры краіны Дз.Бубноўскі вярнуўся са Страсбурга,** дзе прадстаўляў Беларусь у Савеце Еўропы. Адным з напрамкаў узаемадзеяння Савета Еўропы і Беларусі будзе абнаўленне гістарычнага цэнтра Гародні.

❍ ***У лялечных тэатраў нашай краіны з'явілася свая творчая лабараторыя,*** *якая абсталявалася ў Дзяржаўным тэатры лялек па ініцыятыве яго калектыву і Міністэрства культуры Беларусі. Дай Бог, каб у творчай лабараторыі часцей з'яўлялася на свет сапраўднае тэатральнае мастацтва, якое будзе радаваць гледачоў.*

# НАРОДУ МАЛА ПРОСТА СЛОЎ

У Беларусі пачаўся новы этап барацьбы за дэмакратыю. Ва ўмовах, калі апазіцыя пазбаўлена магчымасці змагацца парламенцкімі сродкамі, гэтая барацьба выплёскваецца ў акцыі грамадзянскага непадпарадкавання. Людзі, якія два тыдні таму суткамі не сыходзілі з плошчы Незалежнасці, студэнты, што выходзілі вясной на менскія вуліцы і нават паспелі адсядзець за свае погляды ў турме, да такога змагання гатовыя даўно. Больш цікавіць, ці ўзначаляць гэты рух дэпутаты разагнанага Вярхоўнага Савета, ці здолеюць яны працаваць, калі перад табой не мікрафон у Авальнай зале, а гукаўзмацняльнік, а насупраць не калегі-парламентарыі, а ўзброены кардон амапаўцаў. А самае галоўнае — ці асэнсавалі кіраўнікі Вярхоўнага Савета свае памылкі, што прывялі да нядаўняй паразы.

Першая паслярэферэндумная акцыя ў гэтым сэнсе вельмі паказальная. 8 снежня дэпутаты Вярхоўнага Савета сустракаліся на плошчы Незалежнасці са сваімі выбаршчыкамі. Уражанне аб гэтай сустрэчы, прызнацца, засталося дваістым. Не пакідала адчуванне, што спадары Багданкевіч, Карпенка, Гразнова і іншыя аратары збіраюцца дзейнічаць у тым прававым полі, якога ўжо не існуе. Тыя ж агульныя лозунгі і заклікі супрацьстаяць дыктатуры. Канкрэтнай стратэгіі дзеянняў, відаць, у іх няма. Ю. Хадыка паведаміў, што, магчыма, хутка ён зноў апынецца за кратамі, бо следства па яго справе завяршаецца.

Спікер Шарэцкі прызнаў, што дыктатура Лукашэнкі ўсталявалася дзякуючы здрадніцкай палітыцы Расіі. Заўсёды прыемна, калі ў чалавека хоць і ў паважаным узросце расплюшчваюцца вочы на рэальнасць. Спадзяюся, Сямён Георгіевіч зразумеў, што сяброўства са спадаром Строевым — гэта зусім не гарантыя ад наступу ў Беларусі дыктатуры.

Улады ў барацьбе з апазіцыяй абралі новую тактыку. Яны больш не ачэпліваюць галоўную плошчу краіны трайным кардонам войска. Праход на пляц быў вольным, а каб заглушыць слабенькі ўзмацняльнік, хапіла адной машыны з гукавой апаратурай і міліцыянта, які пакрываў словы выступоўцаў зваротамі да грамадзян не прымаць удзелу ў незаконнай акцыі і разысціся. Народ жа разыходзіцца і не думаў. Стаўшы ў калоны, людзі ходнікамі рушылі па праспекце Скарыны. Міліцыя практычна не перашкаджала дэманстрантам. Калона прайшла да Кастрычніцкай і павярнула да "прэзідэнцыі". Тут на працягу 10 — 15 хвілін маніфестанты скандзіравалі лозунгі "Не — дыктатуры" ды інш. Да прэзідэнцкай адміністрацыі пачалі падцягвацца падраздзяленні АМАПа. Не ўступаючы з імі ў сутыкненне, дэманстранты пайшлі вуліцамі Я. Купалы і М. Багдановіча да расійскага пасольства. Машыны са спецаддзеламі міліцыі яўна не паспявалі за людзьмі і пад'ехалі да пасольства ў той час, калі значная колькасць дэманстрантаў ужо ачапіла будынак. "Ганьба Расіі", "Ганьба здраднікам" — неслася з вуснаў людзей. Дарэчы, калі з плошчы Незалежнасці выходзіла прыкладна 2 тысячы чалавек, то каля амбасады пікетчыкаў было не менш 5 тысяч. Кіраўніцтва акцыяй узялі на сябе лідэр сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч і дэпутат Павел Знавец, іншых лідэраў апазіцыі ў калоне заўважана не было.

Ад пасольства народ рушыў да будынка тэлерадыёкампаніі, каб выказаць сваё абурэнне хлуслівай прапагандай "кісельнага" ТБ. Каля ўваходу ў тэлецэнтр стаяў кардон амапаўцаў. Тут да людзей звярнуліся П. Знавец, М. Статкевіч. Спадар Знавец нагадаў, што ў адпаведнасці з законам у Беларусі на сённяшні дзень дзейнічае Канстытуцыя 1994 года і любая акцыя грамадзян у яе абарону законная. Мікола Статкевіч падзякаваў людзям за іх мужнасць і выказаў надзею, што разам мы пераможам дыктатуру. Лідэр сацыял-дэмакратаў заклікаў дэманстрантаў разыходзіцца вялікімі групамі, бо ў міліцыі ёсць загад хапаць адзіночак.

Але арыштаў пазбегнуць не ўдалося. Схапілі самога спадара Статкевіча і яшчэ каля 10 чалавек. 9 снежня ў судзе Цэнтральнага раёна пачаўся разгляд адміністрацыйных спраў затрыманых. У якасці доказаў іх віны фігуравалі міліцэйскія пратаколы са стандартнымі абвінавачваннямі — ужываў нецэнзурныя выразы, выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лозунгі. Лявон Валуй з Лагойска атрымаў 3 сутак арышту, Мікалай Грушко, Мікола Міхноўскі, Ігар Шаховіч — старшыня беларускага таварыства з Калінінграда — па 300 тысяч рублёў штрафу, Уладзімір Зорчанка — 500 тысяч. Астатніх арыштаваных выпусцілі да суда на свабоду, разгляд іх спраў перанесены на 12—13 снежня. Суддзя Каршуновіч вырашыў пакінуць за кратамі толькі Міколу Статкевіча, але ён аб'явіў у камеры галадоўку і праз некалькі гадзін яго да суда выпусцілі на свабоду.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# 2. ДУША НА РАЦЭ ЧАСУ

(Гутаркі з Янкам Брылём)

*Дадзенае інтэрв'ю з Янкам Брылём працягвае тэму папярэдняга, запісанага з ім яшчэ ў 1992 годзе, аднак апублікаванага толькі ў вераснёўскім нумары газеты, са спазненнем, аб чым можна толькі пашкадаваць. А ў гэтай спавядальнай гутарцы — гісторыя "душы на рацэ часу" даведзена да нашых дзён і ахоплівае апошняе дзесяцігоддзе творчасці пісьменніка. Спадзяюся, што сказанае ніжэй чытач успрыме з належнай спагадай і разуменнем.*



**— Іван Антонавіч, думаю, што, пачынаючы новую гутарку, мы павінны адштурхоўвацца ад папярдняй. Памятаецца, Вы тады сказалі, што няспешна працуеце над новай кнігай, у якую ўвойдуць апавяданні, замалёўкі і эсэ аўтабіяграфічнага плана. Хацелася б ведаць пра лёс гэтай кнігі.**

— Яна, як і кожная папярэдняя з маіх кніг, мае сваю гісторыю. Недзе ў 1988 годзе, выдаўшы зборнік "На сцежцы — дзеці", я пачаў збіраць матэрыялы для новай кнігі. Дакладней, я падумаў: "Цяпер буду пісаць не тое, што "ў стол", як гэта рабілася калісьці пры неспрыяльных цэнзурных умовах, а проста буду пісаць спакваля, пакуль не набярэцца многа патрэбнага матэрыялу". Можа, такая мая пазіцыя тлумачыцца і ўзростам — было ўжо за семдзесят, — што мне тады, дзякуй Богу, вельмі хацелася пісаць і не надта хацелася друкавацца — адкладвалася на потым. Я ўзяў новую папку і напісаў на ёй: "Незакончаная кніга", — незакончаная ў тым сэнсе, што буду пісаць яе да канца сваіх дзён, і так яна незакончанай і застанецца, як гэта бывае ў многіх пісьменнікаў. Я працаваў над ёй тры гады — восемдзесят сёмы, восьмы, дзевяты. Праўда, у дзевяностым узяў з яе і надрукаваў у часопісе "Полымя" дакументальную аповесць "Мушттук і папка" — пра старэйшага брата Валодзю, расстралянага ў Кіеве ў 1938 годзе. А потым нібы нехта добразычлівы мне падказаў, прадбачачы сённяшнія бядотныя магчымасці нашага друкавання ды выдання, і я выняў з гэтай папкі яшчэ матэрыялы для кніжкі "Пішу як жыву". Гавару "выняў", бо не ўсё тады забраў з яе. Напісанага заставалася і ў яшчэ адну кнігу, якую назваў "Вячэрняе". Першая кніга, якая набіралася і друкавалася ў Маладзечне, моцна запазнілася з выхадам у свет і другая, "Вячэрняе", яе дагнала. Такім чынам, абедзве кнігі з'явіліся ў 1994 годзе. Асаблівасць кнігі "Вячэрняе" ў тым, што ў яе ўвайшло самае запаветнае з таго, што пісалася ў свой час і не магло быць надрукаваным з меркаванняў цэнзуры. Гэтыя запісы, "Свае старонкі", склалі палавіну кнігі "Вячэрняе". Тут я павінен сказаць, што чым больш жыву, тым больш мяне цягне да такой спавядальнай, аўтабіяграфічнай прозы, пра якую можна сказаць словамі Льва Талстога: "Прожил жизнь — расскажи". Узрост абавязвае не адкладваць надалей стварэнне такога роду рэчаў. Так, прыкладам, Леў Мікалаевіч, пачынаючы свае "Воспоминания", лічыў, што яны ста-

*(Заканчэнне на стар. 3.)*

*Чыталі?*

# ТАК, НАМ ПАТРЭБНА СУПОЛЬНАСЦЬ — БЕЛАРУСКІ НАРОД

Прызнаюся, Сямён Букчын: навуковец-літаратуразнаўца, палітычны журналіст, заўсёды быў для мяне цікавы.

Безумоўна — таленавіты даследнік жыцця і творчасці класікаў расійскай літаратуры XIX стагоддзя — Льва Талстога, Антона Чэхава, Уласа Дарашэвіча, сувязяў расійскіх пісьменнікаў таго часу з Беларуссю.

Безумоўна — таленавіты публіцыст-палітолаг дэмакратычнага накірунку, журналіст і літаратар.

А цяпер зірнём на тое, чаго ўрэшце дамагаецца гэта неардынарны чалавек з дапамогай журналістыкі?

Раней галоўнымі апанентамі публіцыста Сямёна Букчына былі дзеячы КПБ: Сямён Букчын — не верыць у пабудову камунізму; БНФ: Сямён Букчын — супраць крайніх праяў нацыяналізму; супраць расійскіх шавіністаў тыпу Жырыноўскага, Баркашова і нашых дамарослых памагатых (тут публіцыст заступаецца за беларушчыну), а таксама — уладатрымальнікаў, якія трымаюць народ за прыдуркаў.

Цяпер выйшаў зборнік публіцыстыкі Сямёна Букчына пад кідкай назвай "Хроника суверенного болота" з падзагалоўкам "Беларусь в эпоху независимости, или Плоды интеллигентной рефлексии". Кніга выдадзеная ў выдавецтве "Европейское время". Цікавая, паміж іншым, біяграфія ў аўтара. Нарадзіўся ў эвакуацыі ў вёсцы Валаконаўка Курскай вобласці, куды цяжарная маці ім трапіла з Гомеля цераз Менск напачатку апошняй вайны. У доме тамтэйшага праваслаўнага святара айца Фёдара і з'явіўся на свет. Габрэй па нацыянальным паходжанні, малы па прапанове таго ж святара быў ахрышчаны і атрымаў імя Самуіл.

Магчыма, адтуль пачынаецца ў будучага публіцыста высокая любоў да расійскай літаратуры і мовы. Магчыма, яна замацавалася дзякуючы выхаванню, што даў габрэйскаму хрышчонаму хлапчуку, сыну настаўніцы пачатковых класаў і франтавіка, айцец Фёдар, няхай дабраславіць яго Бог.

"Уже на пятом году жизни отец Фёдор показал мне буквы, подарил старую "Азбуку", ещё с "ятями" и "ерами". Потом пошли старые издания для детей с большими буквами и цветными рисунками — "Сказки Пушкина", "Тарас Бульба".

Гэта цытата, узятая з самага першага, біяграфічнага, нарыса кнігі "Попытка возврата".

Але не ўсе, хто быў наўкола, зычліва ставіліся да Сямёна-Самуіла. Усё дзяцінства і юнацтва яго суправаджала пытанне, якое час ад часу задавалі чарнасоценцы: "Ты жид или русский?"

Спачатку і яго задавалі дзеці, што ўзялі ў спадчыну гэтае пытанне ад дарослых:

"Они тыкали мне в лицо снежные горсти — это называлось "накормить снегом" — и вопрос Гоника повторялся: "Ты жид или русский?" "Не понимаю!" — крикнул я, вырвавшись из-под них и вскочив на ноги. И не побежал почему-то. "Не понимаю!" "Не прикидывайся дураком, — сказал Гоник. — Я тебя, как человека, спрашиваю: ты жид или русский?"

Сямён Букчын у дзяцінстве быў бялявым хлапчуком. А маці — чарнявая, тыповая прадстаўніца сваёй нацыі. Таму, як тлумачыць аўтар, дзеці з усёй незычлівай наіўнасцю і пыталіся ў Сямёна: хто ж ён такі — габрэй ці расіец?

А тут яшчэ афіцыйная, сталінская, прапаганда разгарнула барацьбу з касмапалітамі, маючы на ўвазе габрэяў. Бацька, што вярнуўся з фронту, і маці, што вярнулася ў Менск з эвакуацыі, рыхтаваліся да высылкі ў Сібір, згадвае С. Букчын. Але, на шчасце, тыран сканаў. Тым не меней, калі будучы публіцыст заканчваў вучобу ў сярэдняй школе (а гэта быў ужо 1959 год), класны кіраўнік, матэматык Аляксандр Рачак, тоўсты, насаты украінец, які хадзіў у кашулі-вышыванцы і які ставіў Сямёну пры абсалютна вывучаным уроку не болей за тройку, зрабіў публічнае адкрыццё: "Ну вот, — сказал он, — надо готовить аттестаты зрелости, а тут оказывается, что мы толком и не знаем, как зовут некоторых наших выпускников. Например, Семён Букчин... Оказывается, по паспорту он не Семён, а Самуил. А по всем школьным документам проходит как Семён".

Класс замер. Наступіла паўза. Кровь бросилась мне в лицо. Задыхаясь, я отчеканил: "Вы подонок!"

Рачак быў не проста настаўнік, а яшчэ парторг школы, член бюро РК КПБ. Толькі матчыны слёзы ўратавалі сына ад выдачы страшэннай характарыстыкі, "ваўчынага білета". Падобная гісторыя паўтарылася ва універсітэце, згадвае аўтар. На прыналежнасць Букчына да габрэйскай нацыі "намякалі" і апаненты, якія палемізавалі з ім у апошнія 10 гадоў у друку.

А Сямён Букчын, не зважаючы на абразы, цікавіўся расійскай, беларускай літаратурамі, мовамі і гісторыяй, стараўся вызначыць сваё месца ў працэсе нацыянальнага Адраджэння і заклікаў да таго, каб гэтае Адраджэнне ішло да людзей натуральна: з аднаго боку, дастаткова актыўна, а з другога — без тупога чыноўніцкага прымусу.

Так. Сапраўды, нашае насельніцтва складаецца і з беларусаў, і з расійцаў, і з украінцаў, і з палякаў, і з габрэяў, і з татараў, і з тых, у чыіх венах разам цячэ кроў некалькіх нацыянальнасцяў.

Як замацавацца пры наяўнасці такой вось моўнай і міжнацыянальнай паліфаніі менавіта беларускім духоўным каштоўнасцям? Мове? Культуры?

Аўтар гэтых радкоў, дарэчы, таксама не чыстакроўны беларус: мае продкі — бліжэйшыя па часу ды больш далёкія — хто расійцы, хто — украінцы, ёсць і чувашы. Але гэта былі працавітыя і годныя людзі. Адны жылі ў Расіі, другія — на Украіне, а іншыя — у Беларусі. Дык хто я? Для сябе я вырашыў гэта ўжо даўно і канчаткова. З таго часу, калі становішча прыніжанай мовы на яе ж тэрыторыі ў мяне выклікала спачуванне і разуменне таго, што з такімі адносінамі да беларусаў мірыцца нельга. І я вельмі рады, што мой калега Сямён Букчын таксама прытрымліваецца падобнага меркавання. Што ў адносінах да ўсяго таго, што мае ёмкае найменне "беларушчына", у яго, прадстаўніка яшчэ больш прыніжанай у славянскім свеце нацыі, ёсць дэмакратычнае стаўленне. Што як, напрыклад, і я, пазбегшы і панславянізму, і тэзаў нацыяналізму, які мяжуе з экстрэмізмам, ён у сваю чаргу не кінуўся у сіянізм, хаця пасля ўсіх абразаў ды прыніжэнняў мог кінуцца. Што, нарэшце, сваю Айчыну ён бачыць тут, у Беларусі.

Не буду аналізаваць усе артыкулы, нарысы ды эсэ, якія аўтар прысвяціў нацыянальнай тэматыцы, прывяду толькі некалькі вытрымак, што характарызуюць сёньняшні погляд на гэтую праблему Сямёна Букчына і ягоную жорсткалагічную ды іранічную манеру пісьма.

**Пра "звышінтэрнацыяналізм" БССР:**

"А в общем, БССР по сравнению со многими другими частями Союза была даже райским местечком. Не случайно здесь многие стремились осесть — и отставники, и прочие. Магазины полнёхонькие. Национальных проблем никаких. В этом плане чувствуешь себя что в Рязани, что в Минске — одинаково. Язык белорусский хочешь учи — хочешь не учи. Никому он здесь, кроме группки "повёрнутых" интеллигентов, студентов, не нужен.

Хорошая была страна БССР. Не уберегли..."

**Пра месца Беларусі ў Савецкім Саюзе:**

"БССР была политической мистификацией, которой управляли из Москвы. По сути под новым названием в советской империи продолжал существовать Северо-Западный край, в котором новые русификаторы продолжали политику старых, царских. Нация не только была лишена права строить своё, действительно суверенное, демократическое государство — коммунистические агитаторы и пропагандисты попросту отбили у нее историческую память, лишили национального самосознания... Тоталитаризм пронизал все сферы жизни белорусов, глубоко изуродовал их историю, культуру, способствовал падению престижа белорусского языка..."

**Крытыка непрадуманай "нацыянал-радыкальнай" прапаганды:**

"Наши националы из числа радикалов решили, что все у нас пойдет "как у людей". Нужно только объяснить народу, чем мы, белорусы, отличаемся и, разумеется, в лучшую, европейскую сторону от этих имперских азиатов, русских. Пропаганда сработала классно — ни один из достойных представителей БНФ не попал в Верховный Совет. А уж какую услугу оказала эта пропаганда товарищу Лукашенко! Дружба с Россией, вероятно, вскоре будет у нас продекларирована на уровне государственного закона..."

Магчыма калега не заўсёды мае рацыю, калі вось так размашыста крытыкуе нацыянальна-дэмакратычных палітыкаў. Тут усё складаней. Але ж, сапраўды, і яны пры ўсёй іхняй самаахвярнасці ды шчырасці, не-не, ды робяць памылкі тактычнага плана, як такое мела месца пад час выбараў у Вярхоўны Савет.

Тым не меней, у Сямёна Букчына крытыка канструктыўная і душа ў яго баліць за лёс беларускага Адраджэння не меней, чым у беларусаў, расійцаў, украінцаў і палякаў, якіх сабралі пад свае сцягі той жа БНФ ці ТБМ імя Ф. Скарыны.

Ну, а якой бачыць беларускае Адраджэнне, Беларускую дзяржаву Сямён Букчын?

Гэтае пытанне я задаў яму, калі нечакана сустрэў 17 лістапада ў Менску, непадалёку ад перакрыжавання праспекта Ф. Скарыны і вуліцы Валадарскага, дзе на дэманстрантаў, што выйшлі з лозунгамі абароны свабоды слова ў друку і эфіры, навальіся з дубінамі АМАП.

— *Скажыце, калі ласка, — спытаў я, — ці наспеў час цяперака павесці гаворку пра міжнацыянальную згоду дзеля сталявання незалежнай Беларусі?*

— Пра гэта заўсёды неабходна гаварыць. Гэта праблема, якая заўжды стаіць перад народам, бо толькі народ мае права яе вырашыць. Беларускаму народу не пашчасціла гістарычна ў сэнсе свайго фармавання як нацыі. Але яно, я ўпэўнены, хай паволі, хай пакрысе, усё-такі ідзе, прасоўваецца наперад.

— *Калі ж гэта, па-вашаму, адбудзецца?*

— Калі наша грамадства адчуе сябе больш аб'яднаным, больш нацыянальна згуртаваным, калі беларусы і небеларусы на грунце беларускіх духоўных каштоўнасцяў і тых каштоўнасцяў, якія маюць іншыя нацыі Беларусі, пачнуць будаваць нармальную грамадзянскую, сапраўды дэмакратычную, цывілізаваную супольнасць. І гэтая згуртаванасць, гэтае яднанне (я перакананы ў тым) ніколі не прыйдзе ў нацыяналізм, якім так нас палохае афіцыйная прапаганда, а станецца менавіта той супольнасцю, што будзе называцца беларускім народам.

Браць удзел у беларускім Адраджэнні, сказаў калега, ёсць пачэсны абавязак інтэлігентаў не толькі беларускага паходжання.

Што ж, вітаю мудрага чалавека.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# Для чаго патрэбна Беларусі "Шэрая кніга" і хто стане яе "героем"?

Пасля прыняцця Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы па яго рэалізацыі ў нас паволна, але эвалюцыйна пачала наладжвацца палітыка адраджэння беларускасці. Думалася, што праз некалькі гадоў і Беларусь зойме свой "пачэсны пасад між народамі", стане роўнай між роўных, адхіне са сваіх сініх васільковых вачэй туман нацыянальнай слепаты, скіне з худых плячэй цяжар рабскага прыніжэння, прыме цывілізаваныя агульначалавечыя нормы.

На жаль, апошнім часам пачала здзяйсняцца дыктатура асімляванай часткі насельніцтва і кан'юнктурна настроенага чыноўніцтва. Пры дапамозе антыдэмакратычнага рэферэндуму, манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і замбіравання праз іх і без таго дэнацыяналізаванага беларуса, хістка ўсталяваны курс стаў рэзка падаць. Грубае парушэнне Канстытуцыі, законаў вышэйшым начальствам, а затым простым людам становіцца звычайнай з'явай. У выніку рэзка зменшылася колькасць вучняў беларускамоўных школ: 34,8 працэнта ў мінулым годзе, у сталіцы суверэннай краіны першакласнікаў стала 19,5 працэнта, цяпер 13 працэнтаў, а было болей за 50 працэнтаў.

У сувязі з гэтым Таварыства беларускай школы і Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны вымушаны здзейсніць шэраг высілкаў і заявіць, што яўная дыскрымінацыя правоў карэннай нацыі рана ці позна будзе спынена і парушальнікі законаў паўстануць перад судом. Злачынствы перад народамі не маюць тэрміну даўнасці і кожны панясе адказнасць за тое, што здзейсніў, нягледзячы на выкананне чужога загаду і сваё нявeданне. Гэта падказвае гісторыя, прынцып Нюрнбергскага працэсу. ТБШ і ТБМ распачынаюць стварэнне "каляровай кнігі", куды будуць заносіцца прозвішчы і факты па знішчэнні беларускай адукацыі.

Крыху аб гісторыі і традыцыях стварэння ў свеце падобных кніг. Каб звярнуць пільную ўвагу грамадскасці на важнейшыя факты жыцця, з XVII стагоддзя існуе практыка іх выдання. У "каляровыя кнігі" змяшчаліся адпаведныя тэматычныя дакументы і матэрыялы. У нас найлепш вядомая "Чырвоная кніга", аднак былі і іншыя. Каб апраўдаць сваю палітыку ў Першай сусветнай вайне, царская Расія выпускала "аранжавыя". А ў 1933 годзе Інтэрнацыянальны камітэт дапамогі ахвярам гітлераўскага фашызму выдаў зборнік дакументаў пад назвай "Карычневая кніга пра падпальванне рэйхстага і гітлераўскі тэрор". "Чорная кніга пра фашызм" змяшчае серыю выданняў з фактамі фашыстоўскай зграі Салазара ў Партугаліі. У 1956-57 гадах урад ВНР звяршыў серыю дакументаў пад назвай "Белая кніга". Контррэвалюцыйныя сілы ў венгерскіх кастрычніцкіх падзеях". Шэраг "белых кніг" было створана ў СССР у 80—90-х гадах па праблемах сіянізму, "імперыялістычнай падрыўной дзейнасці", "халоднай вайне".

Як паказвае аналіз выпушчанага, звычайна колер указвае на вокладку зборніка дакументаў. Іншы раз ён мае сімвалічны сэнс зместу. Найбольш колер замацаваўся за краінай. Так, жоўты колер вокладак выкарыстоўвалі ў Францыі, зялёны — у Італіі, Балгарыі, Румыніі, Мексіцы, Бразіліі, шэры — у Бельгіі, Даніі, Японіі, белы — у СССР, Партугаліі, Грэцыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Венгрыі, аранжавы — у Нідэрландах, Расіі, сіні — у Сербіі, Швецыі, Англіі, чырвоны — Аўстра-Венгрыі, Турцыі, Іспаніі, СССР.

У сувязі з тым, што ў нашай грамадзе ўзнікла дыскусія вакол праблем стварэння "каляровай кнігі" па фактах знішчэння беларускай мовы і школы, я як аўтар праекта палажэння гэтага выдання, які рознабакова вывучаў пытанне, хачу выказаць сваю думку. Неабходна выпусціць "белую кнігу" па матэрыялах канферэнцыі "Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі", як гэта і прадугледжвалася. І не зыходзіць з прынцыпу, што вынікае, прабачце, з адной малавядомай, але павучальнай прыказкі: "Вазьмі і мае штаны ў сваё жлукта". Наступную кнігу трэба назваць ужо "шэрай". Гэты колер для нас мае сэнсавае значэнне. Так прапануе прафесар А.Мальдзіс. І заносіць у яе, у адрозненне ад папярэдняй, толькі вытрымкі, канкрэтныя факты з розных выступленняў і публікацый, як настойвае ўжо прафесар М.Савіцкі.

Лепш, каб падобных кніг нам зусім не прыйшлося рабіць. Аднак пакуль сітуацыя вымагае іншага. Таму перад ёе стваральнікамі стаіць найперш наступныя задачы: звяртанне ўвагі міжнароднай супольнасці, насельніцтва рэспублікі на парушэнні правоў чалавека і адыходзе ад агульначалавечых нормаў і паняццяў у Беларусі; спрыянне захаванню і пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы і сеткі беларускіх школ усіх відаў; грамадскае папярэджанне разбуральнікам-герастратам за немінучую адказнасць перад сваімі нашчадкамі і будучыняй.

У ТБШ і ТБМ паступаюць розныя факты па дыскрымінацыі беларускамоўнага навучання. Сярод іх можна вылучыць наступныя: ухіленне кіраўніцтвам установаў і педагогамі ад належнага нацыянальна-патрыятычнага выхавання; скрытае спрыянне шавіністычным настроям і іх адкрытай прапагандзе; дыскрэдытацыя беларускамоўнага навучання шляхам размоў аб яго нібы непрэстыжнасці і заганнасці, дзейнасцю, скіраванай на яўнае прыніжэнне яго статуса ў вачах грамадскасці (выдзяленне другараднага вучэбнага пакоя, змены, "махінацыі" з падручнікамі і г.д.); аб'яўленне аб змене мовы навучання, нявыпуску падручнікаў; падбухторванне і патуранне варожа настроеным да беларускасці бацькам і інш. Асобы, якія схільныя да названых дзеянняў, і стануць "героямі" стваранай кнігі.

ТБШ і ТБМ заклікаюць сваіх сяброў да актыўнага збору матэрыялаў, а сродкі масавай інфармацыі — да іх абнародавання ў якасці праектаў частак "Шэрэй кнігі".

**Алесь ЛОЗКА,**
**віцэ-прэзідэнт ТБШ.**

*Культурнае жыццё*

# Свята фотамастацтва ў Гародні пад патранажам ЮНЭСКА

У Гародні ўпершыню адбыўся Тыдзень маладзёжнай мастацкай фатаграфіі. Пад час Тыдня ў абласным Доме тэхнічнай і мастацкай творчасці вучнёўскай моладзі адкрыліся тры фотавыставы: "Пасля Чарнобыля" менскага фотамастака Уладзіміра Блінова, "Гарадскія кветкі" ўдзельнікаў Гарадзенскага маладзёжнага фотаклуба МІГ, "Гродна-96", у якую ўвайшлі здымкі фотаюнёраў з VI міжнароднага фотасалона "Дзеці — дзецям Чарнобыля" і ўдзельнікаў першага Рэспубліканскага фотапленэра "Я бачу гэты свет па-свойму".

У гарадскім фотаклубе "Гродна" была паказана вялікая слайд-праграма. Акрамя слайдаў менскіх і віцебскіх фотамастакоў, паказаў сваю аўтарскую калекцыю вядомы гарадзенскі фатограф Міхаіл Анішчанка.

Свята ў Гародні адбылося дзякуючы дапамозе абласнога Цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў, камітэта па справах моладзі аблвыканкама, пры падтрымцы Беларускага клуба мастацкай фатаграфіі, пад патранажам ЮНЭСКА.

Вырашана, што Тыдні фотамастацтва ў Гародні будуць праводзіцца рэгулярна, раз у два гады.

**Віталь НІКАНОВІЧ**
**(Гарадзенскі маладзёжны прэс-клуб).**

# 2. ДУША НА РАЦЭ ЧАСУ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

нуць галоўнай кнігай яго жыцця, ды так, на жаль, на першых раздзелах і спынілася яго работа, — не паспеў. Памятаю, наш стары Юрка Гаўрук мерыўся напісаць пра сваю сумесную выкладчыцкую працу ў Горках, але таксама ўсё адкладваў, — не паспеў. У плане выдавецтва "Мастацкая літаратура" на 1997 год ужо стаіць — адрэдагаваная і афармленая — яшчэ адна мая аўтабіяграфічная кніга "Дзе скарб ваш". Назва ідзе ад евангельскага выслоўя "Дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша". Зноў жа гутарка ў ёй пра самае запаветнае. Выхаду яе папярэднічае даволі вялікая публікацыя ў травеньскім нумары "Полымя" — "З людзьмі сам-насам".

**— Выходзіць, што і будучая Ваша кніга — працяг той самай "Незакончанай кнігі"?**

— Я калісьці пісаў: "Усё маё, а тым больш апошняга часу — па сутнасці дзённік". Гэта азначае, што я магу пісаць толькі пра тое, што перажыта мною асабіста — убачана, пачута, адчута, перадумана самім. Як сказаў Гогаль: "Пока я иду — идёт и работа". І ў мяне кожная наступная кніжка — працяг папярэдняй.

**— У кнізе "Пішу як жыву" прыцягваюць увагу запісы пад назвай "Балючае і дымнае" — пра трагічныя, жорсткія, часам дзікія да абсурду, страшныя і смешныя падзеі і здарэнні, якія мелі месца ў перыяд культу асобы і пазней, пра тых "нібы людзей" тыпу Цанавы або той жа менскай "адказнай" бабы, якая зрабіла сабе кар'еру на "пільнасці", пра тую страшную філасофію, якая асляпляла і замбіравала нават самых лепшых прадстаўнікоў нацыі, пра расстрэлы ў канцы 30-х гадоў і пра многія іншыя жахі. Скажыце, калі ласка, як з'явіўся ў Вашай кнізе такі цыкл?**

— Тут усё вельмі проста тлумачыцца. Як вы заўважылі, у гэты цыкл увайшлі запісы розных гадоў, якія пісаліся "ў стол" і не маглі з'явіцца ў свет раней вальнейшага часу. Хоць заўважу, што тое-сёе з такіх рэчаў удавалася надрукаваць ужо ў хрушчоўскую "адлігу". Так, у зборніку "Жменя сонечных праменняў", які выйшаў у 1965 годзе, надрукавана эсэ пра сябра маёй маладосці, заходнебеларускага камуніста, які за свае перакананні ўцёк у СССР і там быў зняволены на тэрмін у пяць разоў большы за той, што атрымаў у Польшчы, а вярнуўшыся ў канцы пяцідзесятых, — жах падумаць — два гады паміраў ад рака. Дык вось, рыхтуючы да друку "Пішу як жыву", я перагледзеў свае нататкі, выдзеліў трагічныя, балючыя па змесце запісы і вылучыў іх у асобны цыкл.

**— У кнізе выразна прагучала і тэма так званага старэйшага брата — таксама як застарэлы боль.**

— Гэты боль, на жаль, застаецца з намі і цяпер, паколькі пытанне русіфікацыі нашага народа па-ранейшаму злабадзённае. Вазьміце сталінскую русіфікацыю, потым хрушчоўскую, не менш нахабную і вульгарную, затым настала чарга брэжнеўска-машэраўскай русіфікацыі, эпізадычна прайшла андропаўская — у форме асаблівай барацьбы за прэстыж рускай мовы ў выхаванні і навучанні. Аднак самыя нахабныя эзуіцкія формы русіфікацыя набывае ў нас цяпер. Пад выглядам зноў жа дзвюх родных моў яна абрынулася на Беларусь не тое што "дзявятым валам", а проста гіганцкімі хвалямі цунамі: у найбліжэйшай перспектыве ні нацыянальных школ, ні мовы, ні культуры, поўнае "зліццё". Чаго варты спробы, скажам, аб'яднаць чатыры беларускамоўныя газеты: "Літаратуру і мастацтва", "Культуру", "Наша слова" і "Голас радзімы" ў адну — нібыта з эканамічных меркаванняў, — а тады ўжо назначаць туды паслухмянага рэдактара?! Гэта ўжо не тое што касою, а касілкаю пляжыць бедную беларускую мову. З другога боку, як гэта ні парадаксальна гучыць, мы павінны падзякаваць Прэзідэнту , што сваім мінулагоднім рэферэндумам ён прымусіў нас глыбей задумацца над лёсам нацыі, які непасрэдна і неадрыўна залежыць ад стану роднай мовы. Можа, дасць Бог, да нас прыйдзе рэальнае адчуванне гэтай небяспекі і прымусіць больш рашуча супрацьстаяць ёй. У гэтым сэнсе найбольшая адказнасць за выжыванне мовы кладзецца зноў жа на пісьменнікаў ды настаўнікаў. Першыя павінны яе дасканаліць у сваіх творах, другія — навучаць на ёй дзяцей. У шасцідзесятыя гады гэтую праблему ўзняў яшчэ Крапіва на з'ездзе настаўнікаў.

**— Чым і выклікаў абурэнне начальства.**

— А як жа магло быць інакш?

**— Што можаце, Іван Антонавіч, сказаць пра апошняе дзесяцігоддзе сваёй творчасці? Ці можна назіраць у ёй працэс змянення, развіцця?**

— Мне ўспамінаецца першы радок з "Тэстамента" Уладзіміра Жылкі: "Няма за што на лёс мне плакаць". Гэта калі гаварыць пра выданні і перавыданні. У дзевяноста другім — дзевяноста трэцім гадах у мяне выйшаў трохтомнік выбранага. Туды я даваў рэчы, якія мне здаваліся і здаюцца найбольш маімі ў сэнсе шчырасці і патрэбнасці. Па школьнай серыі перавыдадзены раман "Птушкі і гнёзды" і "Выбраныя і аповесці". Выйшла ў свет падарункавая, сімпатычная кніжачка мініяцюр "Пробліскі". Выйшлі таксама названыя вышэй "Пішу як жыву" і "Вячэрняе". Трэцяя — "Дзе скарб ваш" — плануецца на наступны год, пра што я ўжо гаварыў. Былі і замежныя выданні. Многа гэта ці мала? А хто яго ведае. У літаратуры не так яно ўсё вымяраецца. Скажам, у Гогаля ўсяго шэсць томікаў, у Грыбаедава — фактычна адна п'еса, у Льва Талстога плануецца збор твораў на сто тамоў, а ў Юзафа Крашэўскага — тамоў ажно трыста. Так што многа я напісаў ці мала? Відаць, больш не змог. Гэта ж не ад гультайства ідзе. А што да таго, эвалюцыяніруюся я ці тапчуся на адным месцы, дык тут трэба, каб нехта збоку сказаў. А ў мяне павінна быць перш за ўсё адчуванне сваёй патрэбнасці, адчуванне незадавальнення сабою. Такое стаўленне да сваёй творчасці — залог таго, што ты яшчэ жывеш і яшчэ можаш пісаць ці на тым самым узроўні, ці і ўзняўшыся над ім.

**— Значыць, Вы працягваеце напружана працаваць?**

— Я не ўвесь час сяджу ды "графаманю", як можа здавацца. Проза, якую цяпер пішу і якою жыву, патрабуе адпаведнага настрою, можа рабіцца толькі пад настрой. А як не пішацца — тады для нашага брата ёсць такі выхад: чытанне. Пісьменнік павінен і быць чытачом, павінен увесь час вучыцца, арыентавацца ў сусветнай літаратуры, каб не "адкрываць Амерыку" ды не "вынаходзіць веласіпед".

**— Калі я ў кастрычніку слухала Ваша выступленне на апазіцыйным Нацыянальным кангрэсе, то пачула такую па зместу рэпліку: "Нарэшце Янка Брыль загаварыў на ўвесь голас, страціў цярплівасць, стрыманасць". Сама я не падзяляю гэтую думку, бо памятаю зробленае Вамі раней. Відаць, што той ваш "крытык" не знаёмы з вашымі творамі. І ўсё ж як бы Вы адказалі на гэтую рэпліку?**

— Апошнім часам Беларусь у культурных адносінах пачала спакваля выходзіць на міжнародную арэну — сваім оперным і канцэртным мастацтвам, сваім жывапісам, графікай. А чаму? Таму што тут усё зразумела без перакладу, мова гэтых мастацтваў агульналюдская. Мастацтва ж слова ў гэтым сэнсе больш бездапаможнае, бо каб ацаніць яго вартасці, трэба прачытаць тэкст. Нашу беларускую мову мала хто ў свеце ведае, мала хто на ёй чытае. У іншых краінах нават не ўсе ведаюць, што ёсць такі народ — беларусы і на якім паўшар'і планеты ён жыве. Дык вось, каб чуў такую рэпліку і мне трэба было апраўдвацца, — а я не лічу, што мне трэба гэта рабіць, дык я сказаў бы: "Дарагі мой, што ж я магу больш, чым напісаць, а вы — чым прачытаць? Каб вы мяне прачыталі, дык, відаць, не рабілі б такіх заўваг". Вось вы, Ірына Платонаўна, называлі цыкл "Балючае і дымнае". Гэта тое, што магло быць сказана і на плошчы, на мітынгу перад вялікім натоўпам людзей. Калі ж не гукаю на плошчы, дык не маўчу за пісьмовым сталом, бо я больш схільны і здольны да такога роду культурнай, патрыятычнай дзейнасці. Некаму, відаць, зручней падумаць, што вось і Янка Брыль трываў, трываў, ды ўрэшце загукаў, як той мужык у творы нашага класіка. Не ўсё гэта так. На працягу больш за паўстагоддзе літаратурнай працы ў мяне было шмат сутычак і з рэдактурай, і з цэнзурай, і з партыйным начальствам, калі трэба было адваёўваць тое, што хацелася шчыра сказаць. Давайце возьмем і такую рэч — выступленні. Днямі я прыкінуў, што за апошнія дзесяць гадоў выступаў перад студэнтамі, школьнікамі, гарадской інтэлігенцыяй і ў Доме літаратара, і ў розных музеях, у розных гарадах — Брэсце, Гомелі, Ветцы, Гродне, Оршы, Стоўбцах, Карэлічах, а таксама ў шматлікіх вёсках больш за дзвесце разоў. Асабліва люблю бываць у сельскіх школах, гутарыць з вучнямі і настаўнікамі. На жаль, адміраюць гэтыя школкі, ёсць такія, дзе на дзевяць-дзесяць настаўнікаў прыпадае шаснаццаць-семнаццаць вучняў. Дык вось, на кожным выступленні я, так сказаць, імправізаваў, паколькі прозу чытаць на публіку цяжка, яна не слухаецца так, як вершы, а затым адказваў на пытанні, часам і досыць вострыя, а то і каверзныя. Выступаў я за гэты час і ў прэсе з артыкуламі, і інтэрв'ю са мною друкавалася. Выходзіў я з публікацыямі на чытачоў "Полымя", "Маладосці", "Крыніцы", "Роднага слова", "Нашага слова", "ЛіМа", "Звязды", "Дружбы народов", "Диалога" і іншых выданняў. Так што, дзякуй Богу, і я яшчэ варушуся.

**— Іван Антонавіч, думаю, што Вы прадбачылі і такое пытанне: што адбываецца з вашымі замежнымі сувязямі і выданнямі?**

— Ой, у гэтым плане мае справы дрэнныя. Пісьменнікі, крытыкі, перакладчыкі, чытачы між сабой цяпер злачынна раз'яднаныя. Сувязі парваліся і далей рвуцца з-за праблем фінансавых: дорага каштуе ліставанне, яшчэ даражэй — тэлефонны званок у Варшаву, Прагу, Кіеў, Маскву... З выданнямі справы ідуць не лепш: скрозь такі ералаш пачаўся. Мая апошняя кніга на рускай мове выйшла ў восемдзесят восьмым годзе ("От сева до жатвы"). У Польшчы апошняя кніжка пад назвай "Wartki Niemen" ("Быстры Нёман") выйшла ў восемдзесят дзевятым годзе, у добрым перакладзе Чэслава Сэнюха, у пачэснай серыі "Сучасная сусветная проза". Дзесьці ў восемдзесят пятым — восемдзесят восьмым гадах творы мае выдаваліся апошні раз у Чэхіі, Балгарыі. Дзве кніжкі яшчэ раней былі нават выдадзены ў Кітаі. Адна з іх — апавяданні для дзяцей. Намецілася было там штосьці з перакладамі маіх мініяцюр — дзякуючы выкладчыцы Гомельскага універсітэта Алене Неронскай, якая стажыравалася ў Харбіне. Яна мне прывезла некалькі пісем ад кітайскіх літаратараў, якія зацікавіліся маімі запісамі. Але, зноў жа, патрабаваць ад іх перакладу з арыгінала нельга — беларускай мовы яны не ведаюць і перакладаюць з рускага перакладу. Да таго ж, яшчэ дзе той Кітай, а дзе Беларусь. Так справа і заглохла. Да Польшчы, Прыбалтыкі, Расіі — бліжэй, аднак пакуль што тое самае...

**— Іван Антонавіч, раскажыце больш пра замежных перакладчыкаў сваіх твораў.**

— У нас ёсць сябры, якія займаюцца перакладамі з арыгінала. Дакладней сказаць, займаліся. Пачну з перакладчыкаў польскіх. Я ўжо гаварыў пра Чэслава Сэнюха, які, дарэчы, паспяхова перакладае і друкуе раздзеламі Коласаву "Новую зямлю", пераклаў паэмы Сяргея Законнікава "Чорная быль" і "Зязюля", якія зусім нядаўна выйшлі кнігай. Мяне перакладала і Ганна Сабэцкая — выдала адну маю кнігу. Для беларускай літаратуры шмат зрабіў Ян Гушча. Ён выдаў, уявіце сабе, ажно дзве анталогіі беларускай паэзіі, а таксама творы Танка, Караткевіча, Багдановіча і іншых, у тым ліку і мае. Хораша працаваў на нас Мацей Канановіч: перакладаў сам і арганізоўваў публікацыі. Добрымі нашымі перакладчыкамі былі таксама Ігар Сікірыцкі, Віктар Варашыльскі... На жаль, усе яны пайшлі з жыцця. У прыбалтыйскіх краінах многа выходзіла твораў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і маіх, у перакладах літоўца Жукаўскаса, латыша Ванага, эстонца Йычы. Вельмі плённа працаваў, а сёння працуе, на жаль, ужо менш прафесар Карлава універсітэта ў Празе Вацлаў Жыдліцкі. Ён пераклаў, так скажам, цэлую бібліятэку беларускай прозы ад Чорнага да Караткевіча, у тым ліку нашу, з Адамовічам і Калеснікам, кнігу "Я з вогненнай вёскі...", мой раман "Птушкі і гнёзды", кнігу выбраных аповесцяў, перасыпаных мініяцюрамі.

Пашанцавала мне з выданнем "Птушак і гнёздаў" у Германіі, прычым у перакладзе з арыгінала, зробленым Гансам Іяхімам Грымам. Перакладаюць нас Норберт Рандаў, Уладзімір і Ула Чапегі, беларуска-нямецкая пара. Пашанцавала мне ў Балгарыі, дзе дзякуючы Сімяону Уладзіміраву і Іжо Сокалаву выйшла кніга мініяцюр "Вітражы" і аповесці "Золак убачаных здалёк" і "Ніжнія Байдуны". да таго ж, апошняя аповесць двойчы. Так ёй, дарэчы, пашанцавала і ў Польшчы: выйшла яна таксама двойчы і ў двух перакладах — Яна Гушчы і Чэслава Сэнюха.

**— А хто перакладаў Вашы творы ў Расіі?**

— Дзмітрый Кавалёў, Арсень Астроўскі, Георгій Папоў. Усіх іх прыгадваю добрым словам, усім ім удзячны. Паэт Кавалёў, па бацьку беларус, настолькі ведаў нашу і рускую мовы, што нейкае слова ці сказ мог даваць на выбар у двух, а то і ў трох варыянтах. Уяўляеце сабе, якая гэта раскоша! Астроўскі, рафінаваны пецярбургскі інтэлігент, рабіў, на жаль, так: усю ў мяне лаянку, якая б яна ў народзе ні была разнастайная ды сакавітая, перакладаў аднолькава: "Будь ты неладна", "будь ты неладен". Ну і іншыя рэчы ў яго праскоквалі. Напрыклад, параўнанне: "так спраўна і спорна ідуць у пракосе сапраўдныя касцы" ён мог перакласці: "так споро идут, помахивая косами, настоящие косари"... Я смяюся, казаў яму: "Ну, Арсень Рыгоравіч дарагі, памахваць можна хвастом, касой памахваць нельга". Ды гэта дробязі, у цэлым беручы, пераклады Астроўскага культурныя, я яму ўдзячны за многае. Георгій Папоў — сібірак, алтаец — усе пасляваенныя гады пражыў у Беларусі і выдатна ўжыўся ў нашу мову. Назаву таксама некалькі публікацыяў сваіх твораў у Маскве ў добрым перакладзе Іны Сяргеевай.

А наогул, трэба прызнаць, што яшчэ мы вельмі мала маем такіх перакладчыкаў, якія маглі б данесці нашу літаратуру да сусветнага чытача па-сапраўднаму, якасна. Памятаецца, як гадоў трыццаць таму назад Навум Кіслік упершыню пераклаў на рускую мову кнігу паэзіі Янкі Купалы з вершаў, якія раней не перакладаліся, а з якой цяжкасцю мы не прабівалі у друк?.. Справа перакладаў — праблема вялікая, і вельмі важную ролю, яшчэ раз падкрэслю, адыгрывае іх якасць. Ёсць і такія, што проста псуюць арыгінал. Вельмі цяжка бывае і перакласці таго або іншага таленавітага пісьменніка. Напрыклад, нашых Пімена Панчанку, Кузьму Чорнага. Хочацца, каб мы мелі сваіх перакладчыкаў з ліку літаратурна адоранай моладзі, аднак пакуль што ў нас апошнім часам моладзь больш імкнецца ў юрыспрудэнцыю ды эканоміку — бліжэй да грошай, да лягчэйшага жыцця. Думаю, аднак, што і гэта з'ява часовая.

**— Іван Антонавіч, патрабуецца, так сказаць, завяршальны акорд для нашага інтэрв'ю. Мы яшчэ не гаварылі з Вамі пра будучыню нашай літаратуры і культуры. Якім Вам бачыцца ў перспектыве іх лёс?**

— Ужо больш як паўстагоддзя я гараджанін, аднак адчуваю сябе, дзякуй Богу, у моцнай ступені і селянінам, у сувязі, дружбе з тымі, хто займаецца — і тут пакарыстаюся выразам Талстога — "хлебным трудом". Трымаецца — ці то ў свядомасці маёй, ці то ў характары — мужыцкі аптымізм: усё, маўляў, павінна быць добра. Для поўнага песімізму, для безвыходнасці няма, па-мойму, падстаў. Былі і горшыя часы. Вось да вайны — мне расказвалі старэйшыя таварышы — толькі ў аб'яднанні "Маладняк" налічвалася больш за трыста чалавек, а былі ж яшчэ аб'яднанні "Узвышша", "Полымя" і, нарэшце, Саюз пісьменнікаў. Куды яны ўсе падзеліся? Вынішчаныя былі. Калі 10 траўня сорак пятага года, назаўтра пасля Дня Перамогі, мы з Мележам уступалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, то па ліку адзін з нас прахадзіў сорак трэцім, а другі — сорак чацвёртым. Цяпер жа ў нас, нягледзячы на адсеў пісьменнікаў, якія былі асноўным крапяжом у нашай літаратуры, — з жыцця пайшлі Мележ, Караткевіч, Танк, Панчанка, Бечык, Вялюгін, — у нас ёсць паэты і празаікі, чытаючы якіх, можна парадавацца і паспадзявацца, — калі браць самых маладых.. У прозе, скажам, гэта Уладзімір Ягоўдзік, Андрэй Федарэнка. У паэзіі — Міхась Скобла, Людміла Рублеўская... Я назваў не ўсіх, ды справа, перш за ўсё, у тым, што маладыя сілы ў літаратуру ідуць. Нядаўна сустрэў зусім невядомае для сябе імя — Галіна Варатынская. Добрыя, спелыя вершы. Аказваецца — гэта журналістка з раённай газеты.

Давялося мне апошнім часам прымаць удзел у святкаванні юбілеяў такіх, скажам, неперашаступенных паэтаў, як Ян Чачот, Алесь Мілюць, Улад Ініцкі. Што прыемна: святы гэтыя і на Карэліччыне, і на Стаўбцоўшчыне адбыліся ў самых народных нізах і прайшлі вельмі хораша. Цікава было паслухаць, прыкладам, як у Ініцы, роднай вёсцы Улада Ініцкага, дзеткі дэкламуюць яго вершы, а цёткі, былыя суседкі, успамінаюць гэтага земляка добрым словам. Як гэта важна, што трымаецца і захоўваецца ў народных нізах наша, вобразна кажучы, літаратурная грыбніца.

Даводзіцца чуць нараканні, што нашы людзі, пераехаўшы з вёскі ў горад і перайшоўшы з роднай мовы на трасянку, не чытаюць роднаю літаратуру. Дык яны ж і Талстога ці Дастаеўскага не чытаюць таксама, у лепшым выпадку, пажуюць нейкі рускамоўны дэтэктыў, а яшчэ лепш — серыял які па тэлевізары паглядзяць...

Тэлевізар таксама часам парадуе: тады-сяды пройдзе "Беларускі дом", "Роднае слова", а то і добрая музычная перадача з песнямі, скажам, Забэйды Суміцкага, народнымі... Аднак, і на тэлебачанні, і на радыё справы ў нас, як гаворыцца, ідуць далёка не належным чынам...

Нашы бедныя школы... Аднойчы мяне запрасілі ў адну з іх — выступіць перад першакласнікамі. Пайшоў з павагі да настаўніка, не надта верачы ў належны кантакт з рускамоўнымі навучэнцамі. Потым вучні пісалі сачыненне пра творчасць Брыля і іхнюю сустрэчу з ім. Настаўнік мне паказаў, а я паглядзеў некалькі тых работ. Ведаеце, такія ёсць разумныя, харошыя юнакі і дзяўчаты. Так яны горнуцца да роднага слова, нягледзячы на тое, што школа тая руская. Я рэдка ўжываю публічна лозунг "Жыве Беларусь!" Але душой адчуваю: Яна жыве і будзе жыць. Мы ёсць і мы будзем. Толькі трэба працаваць.

**— Шчыра дзякую, Іван Антонавіч, за гэтую сустрэчу і за гутарку. Жадаю Вам добрага здароўя і плёну ў працы.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**
1992 — 1996 гады.
**Фота В.ЖДАНОВІЧА.**

*Згадкі*

# ХАЦЕЎ ДАБРА БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

Для заходнебеларускага нацыянальнага актыву міжваеннай Польшчы былі характэрныя пракамуністычныя настроі. Нягледзячы на весткі пра крывавы тэрор НКУС у БССР, многія актывісты нацыянальна-вызвольнага руху гэтаму не верылі і слепа працягвалі змаганне пад камуністычнымі лозунгамі. Тысячы маладых хлапцоў і дзяўчат уступалі ў камсамол і кампартыю Заходняй Беларусі. Яны самаахвярна змагаліся за правы беларускага народа, не шкадавалі сябе, сваёй маладосці, па 5, 10 гадоў праводзілі ў польскіх турмах, не разумеючы, што з'яўляюцца марыянеткамі ў руках маскоўскіх правадыроў, якія марылі пра сусветнае панаванне. Адным з такіх ашуканых беларускіх патрыётаў быў Юльян Саковіч.

Юльян Саковіч нарадзіўся 24 жніўня 1906 года ў фальварку Баўдыры Крэўскае воласці Ашмянскага павета ў заможнай сялянскай сям'і. Ягоны бацька меў добры прыбытак са сваёй вялікай гаспадаркі і мог даць сыну грунтоўную адукацыю. Юльян вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі, пасля заканчэння якой паступае ў Віленскі універсітэт, каб стаць аграномам. Магчыма, гэта было жаданне бацькі.

Сярод студэнтаў Ю.Саковіч адразу вылучыўся сваёй актыўнай палітычнай дзейнасцю. Адначасова ён быў сябрам незалежніцкага Беларускага студэнцкага саюза і ўдзельнікам камсамольскага падполля. З камуністычнай ідэалогіяй Саковіч пазнаёміўся яшчэ пад час вучобы ў гімназіі, чытаючы падпольныя бальшавіцкія газеты, улёткі, брашуры. Невядома, што прывабіла яго ў камунізме і як ставіліся да выбару сына ягоныя бацькі. Безумоўна, тут вялікую ролю адыграла легенда пра "Беларускі Дом", які нібыта будавалі у БССР бальшавікі. Многія бачылі адзіны ратунак ад рэпрэсій польскіх акупантаў зноў жа на ўсходзе, у БССР.

У шэрагах БСС было больш моладзі, якая са скептыцызмам глядзела на падзеі ў савецкай Беларусі. Камсамольцы, выконваючы заданні "старэйшых таварышаў", спрабавалі захапіць, а калі не ўдасца — разваліць БСС. Спачатку вялася прапагандысцкая работа: камсамольцы распаўсюджвалі сваю літаратуру, чыталі на зборках сяброў Саюза адпаведныя даклады. Саковіч, напрыклад, прачытаў даклад "Аб пралетарскай культуры". Убачыўшы, што ніякіх вынікаў няма, Саковіч з сябрамі паспрабаваў разваліць БСС. У 1929 годзе за "падрыўную" дзейнасць ён і Г.Вялецкі былі выключаныя на год з Саюза. Тады яны распачынаюць выданне ў ліпені 1929 г. "грамадзка-навуковай і літаратурна-мастацкай часопісі беларускага Паступовага (прагрэсіўнага) Студэнцтва" "Вольная Думка". Аднак аб'яднаць вакол "Вольнай думкі" значнай колькасці студэнтаў не ўдалося, а сам часопіс спыніў існаванне на другім нумары, які выйшаў у снежні 1929 года. Адной з прычын гэтага стаўся арышт польскай паліцыяй Юльяна Саковіча. Гэта было ўжо не першае яго знаёмства з дэфензівай. Упершыню ён арыштоўваўся па справе Грамады, актыўным сябрам якой быў.

Віленскія камсамольцы, тым часам, працягваюць дыверсіі супраць БСС. 24 сакавіка 1930 г., калі Саюз адзначаў чарговыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай народнай рэспублікі — Акту 25 САКАВІКА, на памяшканне, дзе праходзіла ўрачыстая вечарына, напалі камсамольцы. Яны справакавалі сутычку і закідвалі прысутных бутэлькамі, але, атрымаўшы належны адпор, разбегліся. Спрабавалі разваліць Беларускі Студэнцкі Саюз і палякі, якія арганізавалі беларускую студэнцкую арганізацыю "Скарынія" з часопісам "Новая Варта". Але і іх намаганні былі марнымі.

Саковіч актыўна працуе таксама ў Таварыстве беларускае школы (ТБШ). На пачатку 1933 г. ён і яшчэ некалькі дзеячаў ТБШ былі арыштаваныя "за камуністычную дзейнасць". Часопіс "Летапіс Таварыства Беларускай Школы" паведамляў, што "ў днях 1-4 лютага г.г. адбыўся у Акружным Судзе працэс над прэзыдыюмам Т.Б.Ш. у асобах старшыні Ф.Стэцкевіча, віцэ-старшыні М.Пяткевіча і сэкратара Г.Шырмы, сябрам Наглядной Рады Ю.Саковічам, сябрам Дачаснай Паўнамоцнай Камісіі Церахам і грам. С.Скуркай, які не зьяўляецца сябрам Таварыства. Усіх пералічаных абвінавачвалі ў стварэнні на грунце Т.Б.Ш. камуністычнай змовы з арт.102, ч.І Карнага Кодэксу. Усіх трох сябраў прэзыдыюма Галоўнае Управы Суд апраўдаў, Цераха і Саковіча засудзіў на тры гады турмы кожнага, а Скурку на два гады".

Часопіс "Шлях моладзі", сталым падпісчыкам якога, дарэчы, быў Саковіч, адзначаў, што "ўсе падсудныя, за выняткам Скуркі, гаварылі ў судзе па-беларуску". Адбыўшы тэрмін зняволення, у 1936 г. Саковіч зноў быў арыштаваны польскай паліцыяй.

На пачатку 1939 года ў Баранавічах на нелегальную нараду сабраліся былыя актывісты Грамады. Яны прагназавалі хуткі пачатак вайны Германіі з Польшчай, а таму абмяркоўвалі сваю тактыку дзеянняў у гэтых варунках. Быў прыняты нават план антыпольскага паўстання з мэтаю абвяшчэння незалежнае Заходнебеларускае рэспублікі. Юльян Саковіч удзельнічаў у гэтай нарадзе, а неўзабаве быў у чарговы раз арыштаваны...

Пачатак нямецкай агрэсіі вызваліў Саковіча з канцлагера ў Бярозе-Картузскай. Ён вяртаецца ў родныя мясціны, дзе ўжо пачынала ўсталёўвацца савецкая ўлада. Здавалася, што нарэшце настаў той час, калі спраўдзіцца ўсё, за што ён змагаўся. Але яго чакала вялікае расчараванне. Юльяна Саковіча арыштоўваюць цяпер ужо бальшавікі. Здзекі і катаванні доўжыліся месяцамі і скончыліся 22 чэрвеня 1941 года...

Саковіч уцякае з турмы і вяртаецца на Ашмяншчыну. З прыходам немцаў, паліцыю і грамадзянскую адміністрацыю захапілі палякі, якія распачалі антыбеларускі тэрор. Актывісты Грамады, ТБШ, КПЗБ расстрэльваліся без суда і следства. Быў арыштаваны і Саковіч, але нейкім цудам яму і Паўлу Асіповічу ўдалося вырвацца з рук паліцыі і ўцячы ў Менск.

Развітаўшыся з сваімі камуністычнымі ілюзіямі, Саковіч далучаецца да тых беларускіх патрыётаў, якія, як і ён, вызваліліся з турмаў НКУС або прыбылі з эміграцыі. Дзеля падтрымкі беларускага падпольнага незалежніцкага руху Саковіч становіцца камендантам беларускай паліцыі Менскай акругі, а пасля г. Менска. У кастрычніку 1941 года яго прызначаюць начальнікам адміністрацыйнага аддзела Беларускае Народнае Самапомачы (БНС). Многія ведалі пра камуністычнае мінулае Саковіча, і ў СД пасыпаліся на яго даносы. Але немцы да былога вязня бальшавіцкіх турмаў аднесліся з даверам. Пазней яны ўспомняць пра гэтыя паперы, калі будуць падпісваць Саковічу смяротны прысуд... А пакуль ён становіцца сябрам ЦК Беларускай Незалежніцкай партыі (БНП), кіруе яе Менскім акруговым камітэтам. На яго кватэры праходзілі ці не ўсе з'езды і нарады гэтай партыі. Адначасова Ю.Саковіч з'яўляўся правадыром нелегальнай арганізацыі "Беларуская Народная Грамада", у якую ўваходзілі былыя сябры БСРГ 1925-27 гг. У 1942 г. у Заходняй Беларусі дзякуючы грамадоўцам удалося аб'яднаць некалькі дзесяткаў патрыятычных партызанскіх атрадаў і груп у "Беларускую народную партызанку".

Летам 1942 г. Ю.Саковіч уваходзіць у штаб па фармаванні вайсковых аддзелаў Беларускае Самааховы (БСА), падпісвае адпаведны заклік да беларускага народа, акрамя яго, пад заклікам сталі подпісы Івана Ермачэнкі — старшыні Галоўнае Рады БНС, ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, архіепіскапа Філафея, Вацлава Іваноўскага — старшыні Менскае ўправы, Уладзіслава Казлоўскага — паэта, рэдактара "Беларускае Газэты".

Германскія спецслужбы мелі інфармацыю пра беларускую канспірацыю. Бачачы ў Саковічы аднаго з яе кіраўнікоў, яго пачынаюць адсоўваць ад уплывовых пасад. У траўні 1943 года яго высылаюць з Менска ў Ліду, на верную смерць, бо Саковіч пратэставаў супраць палення вёсак і масавых забойстваў насельніцтва карнікамі (пра гэта піша Ю.Туронак у кнізе "Беларусь пад нямецкай акупацыяй"). Чаму на верную смерць? Справа ў тым, што Лідчына была апанаваная польскаю партызанкаю, якая падтрымоўвала з немцамі шчыльныя кантакты, атрымоўвала ад іх зброю і амуніцыю. Беларусы тут былі ўшчэнт запалоханыя, бо польскія тэрарысты забівалі беларускіх актывістаў упрост на вуліцах горада...

Разам з Саковічам прыехаў на становішча павятовага старшыні ў Васілішкі Леанід Маракоў, брат пісьменніка Маракова, што загінуў у сталінскіх лагерах. Акруговы камісарыят дэлегаваў іх абодвух часова ў гэтае мястэчка, бо ўся адміністрацыя і паліцыя там была амаль выключна абсаджаная палякамі. Праз пару тыдняў яны павінны былі вярнуцца ў Ліду, каб заняць тут становішчы ў адміністрацыі. Вярнуліся яны раней, але... у трунах. Польскае падполле ў Васілішках надзвычай апаратыўна даведалася пра прыбыццё Саковіча і Маракова і вырашыла іх знішчыць. Гэта павінны былі здзейсніць былы польскі вайсковец са Старых Васілішак і шляхціц з фальварка Астрава. На касцёльнай плошчы мястэчка ў 3 гадзіны дня яны ва ўпор расстралялі прыбылых з пісталетаў.

Беларускія следчыя выйшлі на след забойцаў, але немцы зрабілі ўсё магчымае, каб апошнія пазбеглі кары, — яны далі ім магчымасць уцячы ў лес. Затым Ілля Кіслы, у якога былі ўсе дакументы па расследаванні забойства, быў застрэлены на лідскай вуліцы...

Юльян Саковіч быў пахаваны на праваслаўных могілках Ліды ў прысутнасці шматлікай беларускай грамады.

**Сяргей ЁРШ.**

*Чыталі?*

## КАЛІ ЛАСКА, "БРЭСТЧЫНА"!

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*

**Якуб Колас.**

Адкуль вытокі той адзінай на зямлі мясціны, дзе немаўля ўпершыню ўбачыла схілены пад калыханку мілы твар матулі, дзе яно зрабіла свой першы нясмелы крок у вялікі свет і дзе яшчэ жывуць тыя, што памятаюць і чакаюць яго, дарослага? Жыхарам Брэстчыны пашанцавала аб тым даведацца: рэспубліканскае выдавецтва "Беларусь" выпусціла кнігу з аднайменнай назовам — "Брэстчына". Яе аўтар — кандыдат філалагічных навук А. Ненадавец. Гэта адна з шасці (па колькасці абласцей краіны) кніг задуманай серыі.

Кніга напісана з замілаваннем, любоўю і шчырасцю мясцовых жыхароў да паходжання назвы таго ці іншага паселішча. У ёй занатаваны міфалагічныя карані нацыянальнага фальклору. Аўтар выдання ўздоўж і ўпоперак дбайна пахадзіў па Бацькаўшчыне, меў не адну сотню гутарак з сівабародымі дзядулямі і іх спадарожніцамі. Пры тым, ён аддаў перавагу не старажытным гарадам, а маленькім вёсачкам, якія знікаюць з твару зямлі як "неперспектыўныя" ці пасыпаны чарнобыльскім попелам.

Аўтар слушна не ставіў перад сабой мэту дакладна вызначыць паходжанне той ці іншай назвы. Ён толькі даваў да нас апрацаваныя народныя легенды і паданні аб узнікненні назвы вёскі, мястэчка ці горада. Прынамсі, з некалькіх варыянтаў легендаў і паданняў выбіраў найбольш цікавыя і запамінальныя. Чытаеш кнігу і дзіву даешся, як малапісьменныя продкі рупіліся аб захаванні памяці сваіх нашчадкаў. Зайздросная якасць для сённяшніх спадкаемцаў!

У кнізе распавядаецца, як з сівой даўніны маладыя шанавалі ды аберагалі старэйшых. Здавён палешукі і палевікі, дрыгавічы і радзімічы былі не толькі памяркоўнымі ды рахманымі, цікаўнымі ды дасціпнымі, яны любілі жартаўлівае, трапнае слова. Таму ў кнізе ёсць і смешныя, гумарыстычныя апавяды. Аўтар неназойліва распавядае, як трэба бескарысліва любіць родную прыроду, па-чалавечы ашчадна ставіцца да братоў нашых меншых — звяроў і птушак.

Часта назва паселішчаў звязаная з нашэсцем ворагаў — татараў, шведаў, палякаў, французаў, немцаў, — бо нават камяні іх умацаванняў былі мокрымі ад поту і слёз, чырвонымі ад крыві і гора людскога.

"Брэстчына" адкрыла серыю тапанімікаў 105 населеных пунктаў вобласці.

У кнізе падаюцца цікавыя апавяды пра Баранавічы і Бярэсце, Камянец і Кобрын, Лунінец і Маларыту, Пружаны і Столін, іншыя раённыя цэнтры, мястэчкі і вёскі. Столінскі раён даў варыянты легендаў пра Давыд-Гарадок і Дубянец, Рубель і Рэчыцу, Стругу і Хатомель. Шкада, што складальнік зборніка не зазірнуў у столінскую глыбінку за 50 — 80 кіламетраў ад чыгункі: у Аздамічы і Альшаны, В.Малешава і Кароцічы, Мачуль і Рамель, Сямігосцічы і Цераблічы, дзе мясцовыя краязнаўцы напісалі анамастычныя матэрыялы, якія заслугоўваюць увагі. Хочацца спадзявацца, што пры дапрацоўцы і перавыданні серыі заўвага будзе ўлічана.

А ўвогуле, гэта ж першая спроба такога выдання, так бы мовіць, першы блін, толькі, на шчасце, не камяком, а мяккім, пышным караваем. Чытачы ўдзячныя аўтару — А. Ненадаўцу, афарміцелям і мастакам — І. Лагуноўскай, Г. Мацур — за каштоўнае выданне.

**Леанід РАМАНЕНКА, настаўнік.**

*Замежжа*

## Загадкавы лёс грамадзяніна Расіі

Тэнгіз Кітавані — так зваць былога міністра абароны Грузіі, суд над якім адбыўся нядаўна ў Тбілісі. У час суда побач з экс-міністрам на лаве падсудных апынуўся і яго дарадца — грамадзянін Расіі Валеры Фісюн. Ён быў затрыманы разам з Кітавані ў час, калі той са сваім збройным фармаваннем рушыў у бок мяжы з Абхазіяй.

Хто гэты чалавек і скуль ён узяўся ў атачэнні былога міністра, ніхто да канца не разумеў. У час арышту ў Фісюна былі знойдзеныя розныя дакументы — ад пасведчання карэспандэнта газеты "Кубанский курьер" да даведкі, што сведчыла: яе ўладальнік — прадстаўнік прэзідэнта Расіі на Чарнаморскім узбярэжжы.

Таямнічы былы дарадца былога міністра атрымаў вырак шасці гадоў турэмнага зняволення. Сядзець яму давялося нядоўга: неўзабаве пасля вынясення прысуду ён быў знойдзены мёртвым у турэмнай каморы. Экспертыза засведчыла смерць ад інфаркту.

Але гэта — афіцыйная версія. Экс-міністр Кітавані праз сваю сужонку заявіў: ён не верыць сведчанням экспертаў грузінскага МУС і лічыць, што Фісюн быў забіты, найбольш верагодна — атручаны. Другі былы паплечнік Фісюна — экс-прэм'ер Грузіі Тэнгіз Сігуа — нават запатрабаваў умяшання ў гэтую справу расійскага пасольства.

Звычайна расійскія дыпламаты вельмі ўважлівыя да лёсу сваіх суайчыннікаў (узгадайце нядаўні ажыятаж з прычыны арышту ў ЗША былога расійскага вывядоўцы)! Але гэтым разам здарылася нечаканае: супрацоўнікі пасольства адмовіліся каменціраваць арышт, зняволенне і нават смерць грамадзяніна Расіі ў чужой дзяржаве. Пасольства адмовілася нават дапамагчы сваякам памерлага перавезці яго цела на радзіму. Паводле словаў Тэнгіза Сігуа, у пасольстве заявілі, што не маюць на гэта грошай.

Ці азначае гэта тое, што Фісюн, страціўшы былы ўплыў, стаў непатрэбны расійскім уладам? Сёння гэтае пытанне задаюць сабе іншыя людзі, якія прадстаўляюць вялікую дзяржаву за яе межамі.

## Латвія: роўнасць для ўсіх

Перайманне ўлады ў былых савецкіх рэспубліках мясцовымі нацыянальна арыентаванымі палітыкамі непазбежна выклікае ўціск прадстаўнікоў некарэнных народаў, найперш расійскага — гэткім аргументам карыстаюцца не толькі нацыяналісты ў Расіі, але і асобныя дзеячы ў нашай краіне, абгрунтоўваючы такім чынам сваю варожасць усім праявам беларушчыны.

Але ці сапраўды яны маюць рацыю, і ўмоваю нармальнага існавання адной нацыянальнай культуры ёсць вынішчэнне іншай і парушэнне грамадзянскіх правоў яе носьбітаў?

Адказам на гэтае пытанне стала інтэрв'ю, якое карэспандэнту BBC даў Гунціс Ульманіс — прэзідэнт Латвіі і ўнук першага латвійскага прэзідэнта. На пытанне аб тым, чаму асобныя лідэры расійскай грамады Латвіі заяўляюць аб пагаршэнні становішча расійцаў у краіне, прэзідэнт адказаў:

— У нас ёсць закон аб грамадзянстве, які ва ўсіх прынцыпах адпавядае еўрапейскім стандартам і інтарэсам людзей, што жывуць у нашай краіне. Кожны чалавек, незалежна ад нацыянальнасці, з цягам часу (гэта зноў жа адпавядае стандартам і прынцыпам, што вякамі існуюць у Еўропе), выконваючы адпаведныя патрабаванні дзяржавы, можа стаць грамадзянінам Латвіі.

Мы рэгулярна праводзім і будзем праводзіць апытанні, як пачуваюць сябе жыхары краю, што іх турбуе. І калі з'яўляюцца людзі, якія не хочуць жыць у Латвіі, дык ніякіх забаронаў выезду перад імі мы не ставім.

Але іншыя абывацелі краіны (расійскага паходжання. — "НС") жадаюць і надалей жыць у ёй — а такіх большасць, каля 90 адсоткаў! Хто хоча выязджаць з добрай, прыгожай, перспектыўнай краіны, якой з'яўляецца Латвія? Бо калі б у нас і сапраўды блага жылося, дык гэтыя 90 адсоткаў напісалі б у анкетах аб сваім жаданні з'ехаць. Але гэтага яны не робяць.

Сёння мы мусім улічваць, што 25 адсоткаў жыхароў нашай краіны — пенсіянеры. Гэта — нашая спадчына ад колішняга рэжыму. І сёння мы зацікаўленыя, каб у грамадстве не адбываўся падзел паводле прыналежнасці да розных супольнасцяў, каб людзі не адчувалі дыскамфорту на працы ці ў сацыяльнай сферы ад таго, ведаюць ці не ведаюць яны мову і да якога народа належаць.

Але трэба разумець: на дасягненне такога стану патрэбны час. Я мяркую, што патрэбныя 10 — 15 гадоў, каб грамадства каланізатараў, якое ў нас будавалася 50 гадоў, ператварылася ў грамадства роўных.

*Замежжа*

## Неканстытуцыйны арол

Камітэт заканадаўства Дзяржаўнай Думы Расіі раптоўна актывізаваў свае намаганні ў справе выпрацоўкі новага закона. Падставаю да таго стала ўвядзенне ў Расіі замежных пашпартоў новага ўзору.

Прычынаю клопатаў урадаўцаў стала тое, што на вокладцы новага пашпарта змешчаная выява адноўленага герба Расіі — двухгаловага арла. У адрозненне ад сваіх беларускіх калегаў, нічога супраць уласнай гістарычнай сімволікі расійскія парламентары не маюць. Але яны сур'ёзна занепакоеныя тым, што гэткія пашпарты могуць быць не прызнанымі ў іншых дзяржавах.

Рэч у тым, што цяперашняя дзяржаўная сімволіка Расіі не зацверджаная канстытуцыяй гэтай дзяржавы, ці кажучы прасцей, належыць да той, што у нас на радзіме называюць незарэгістраванай.

## Замежная мова — дарагая мова

У асобаў і арганізацыяў Украіны, якія жывуць з продажу расійскай перыёдыкі, пачаліся цяжкія часы. Супрацоўнікі мясцовай падатковай інспекцыі літаральна тэрарызуюць іх, патрабуючы мець адмысловыя патэнты на права гандлю замежнай літаратурай.

У дадатак, каб канчаткова выпхнуць расійскую мову як з афіцыйных дакументаў, так і з вулічнай рэкламы, кабінет міністраў Украіны прапанаваў заканадаўцам увесці новы падатак за выкарыстанне расійскай мовы ў назвах суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці.

# Веруем

## ХТО СТАІЦЬ ЗА ПАДПАЛАМ СВЯТЫНІ?

Каля месяца прайшло з часу пажару ў заслаўскай царкве. Нагадаю, што ў той кастрычніцкі вечар агнём была пашкоджаная значная частка драўляных канструкцый святыні, цалкам згарэў дах, званіца, а таксама шмат старажытных абразоў. Жыхары Заслаўя ўпэўненыя, што толькі Боскі цуд выратаваў ад агню царкоўны іканастас.

На фасадзе бажніцы рука нейкага вылюдка вывела словы сатанінскіх заклікаў. Беспакаранасць нараджае новыя злачынствы. Спачатку былі перавернутыя крыжы на менскіх Кальварыйскіх могілках і размаляваны д'ябальскімі сымбалямі касцёл, потым адбыліся падобныя акцыі ў Берасцейскай вобласці, а сёлета быў апаганены і менскі Свята-Духаў катэдральны Сабор.

Хто ж стаіць за гэтымі злачынствамі — хуліганы-малалеткі, таямнічая арганізацыя ці хтосьці яшчэ? Размаўляючы на гэтую тэму з калегамі-журналістамі, часам даводзілася чуць думку, што ніякіх сатаністаў у нас не існуе, а ўсе гэтыя сымбалі на святынях з'яўляюцца для таго, каб пераканаць грамадскасць і дзяржаўныя органы ў тым, што Царква знаходзіцца ў небяспецы, і такім чынам атрымаць, напрыклад, дадатковы кавалак зямлі пад ахоўваемую тэрыторыю. Тэзіс, безумоўна, спрэчны і бяздоказны, хаця для яго з'яўлення існуюць падставы. Як, напрыклад, можна растлумачыць той факт, што ў цэнтры сталіцы, побач з аддзяленнем міліцыі нейкая банда апаганьвае царкву і гэтага ніхто не заўважае? Але нельга выключаць таго, што падобным чынам выклік грамадству кідае нейкая сатанінская секта. Пэўны працэнт людзей з асаблівым складам псіхікі, якія свядома абіраюць і пакланяюцца злу, існуе ў кожнай краіне, і Беларусь тут — не выключэнне. І калі яны ў нас яшчэ не легалізаваліся, як у Расіі, дзе кіраўнікі сатаністаў адкрыта пазіруюць перад тэлекамерамі, гэта не азначае, што людзей, для якіх боствам з'яўляецца "князь цемры", у Беларусі няма.

Вакол падпалу заслаўскай царквы таксама з'явіліся як мінімум дзве версіі. Першая — у вежы бажніцы дзейнічала свечная майстэрня, і ўзгаранне адбылося ў выніку замыкання высакавольтнага кабеля, а потым выбухнулі ёмкасці з воскам. Другая версія: царкву падпалілі для таго, каб адбудаваць нанова ў псеўдарускім стылі, ці прынамсі, скарыстаць падпал і змяніць аблічча святыні.

На пытанне, ці магчымая перабудова царквы, я папрасіў адказаць старшыню дзяржаўнай інспекцыі па ахове гістарычнай спадчыны Дзмітрыя Бубноўскага. Ён сказаў, што такіх зваротаў з боку праваслаўнай царквы не было, а калі і будуць, то наўрад ці можна іх задаволіць, паколькі помнік мае свой адметны архітэктурны стыль. Хіба толькі калі ў часе рэстаўрацыі будуць адкрытыя новыя гістарычныя фрагменты, а штучна насаджваць якія-небудзь "цыбулінкі" ніхто не дазволіць. Новага праекта рэстаўрацыі пакуль не існуе, бо рашэння аб дзяржаўным фінансаванні работ не прынята, хаця мітрапаліт Філарэт ужо звярнуўся з такой просьбай да Лукашэнкі і нібыта атрымаў ад яго вусную згоду. Супрацоўнікі дзяржаўнага камітэта па рэстаўрацыі паведамілі, што гатовы прыступіць да работы, як толькі з'явіцца фінансаванне. На іх думку, прыкладная сума рэстаўрацыі царквы складзе 2,5 млрд. рублёў. Пробашч заслаўскай царквы айцец Мікалай Мазгоў ацэньвае кошт рэстаўрацыі ў 5 млрд. рублёў. Святар спадзяецца не толькі на дапамогу дзяржавы. Для ахвяраванняў на адбудову сабора ўжо адкрыты рахунак у Белбізнесбанку. Айцец М. Мазгоў пацвердзіў, што ў вежы царквы была ўсталяваная лінія па вытворчасці свечак, але ў тую ноч яна была цалкам абясточаная, а сам будынак быў здадзены пад ахоўную сігналізацыю. У царкве, гаворыць святар, была разбітая шыба, праз якую хутчэй за ўсё злачынцы закінулі палаючую паходню. Адносна змяненняў пры рэстаўрацыі айцец Мікалай выказаўся наступным чынам: "У нас ёсць невялікая просьба да навуковага кіраўніка праекта. Вернікі хацелі б аднавіць каплічку, падмуркі якой былі нядаўна раскапаныя археолагамі, і пабудаваць новую ўездную браму". А сама царква павінна мець ранейшы выгляд. Святар не задаволены той маруднасцю, з якой вядзецца следства. Спачатку справу вяло гарадское ўпраўленне ўнутраных спраў, цяпер яна перададзеная ў абласное ўпраўленне. Магчыма, следства на абласным узроўні пойдзе больш шпаркім тэмпам. Але пакуль злачынцы на волі, верагоднасць таго, што ў іншым месцы запалае хрысціянская святыня і з'явяцца жахлівыя надпісы з пагрозамі вернікам, застаецца надзвычай высокай.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**



Выява царквы сьв.Мікалая з візітацыйнай кнігі XVIII стагоддзя

### САБОРНАЯ ГРАМАТА

Во имя Бога во Тройцы единаго, на честь и святую хвалу Его, и людского ради спасенія, а вѣры святой хресьтіаньской кафолической на утвержденье и подвышенье, всѣм, которым тое вѣдати будет належало.

Мы о Бозѣ на Соборе парадном, въ Берестью, року Божія тысяча пятьсот девятдесять шостого, мѣсяца Октоврія осмого дня, водлуг старого календара, въ церквѣ соборной святого Николы собранные, митрополитъ и епископове обряду Греческаго нижей подписаные, ознаймуем на вѣчную память, ижъ мы бачучи, яко единовладность Церкви Божой во Евангеліи усты Господа Бога нашого Інсуса Христа основанна и утвержденна есть, абъ на единомъ Петрѣ, яко на камени Церковъ Христова моцнѣ стоячи, отъ Него одного ряжена и справована абы у единаго тѣла едина глава и въ единомъ дому единъ господаръ и шафар оброков Божіих надъ челядію поставленый о порядку и о всемъ добромъ всѣхъ обмышлялъ.

Который то порядокъ Церкви Божой отъ часовъ апостольских зачатый тривалъ по вси вѣки, а тако, ижъ вси патріархі до единого потомка Петра святого, Папы Рымского, завжды въ судахъ епіскопскіхъ и въ апеляцыяхъ утекалися, яко се то зъ Соборовъ и правилъ святыхъ Отецъ показуеть, и нашн Словенскіе писма зъ Греческихъ зъ стародавна преложоные достаточнѣ то показуютъ, и старые святые Отцы Церкви Восточной то свѣтчатъ, которые-то и Петра святого престолъ и старѣйшенство и власть его надъ епископы всего свѣта знаютъ.

## Свята пад акупацыяй

Здавалася, што 30 лістапада Берасцейская крэпасць рыхтавалася да адбіцця чарговага штурму нейкіх захопнікаў. Такой колькасці міліцыянтаў на яе тэрыторыі берасцейцы не бачылі ўжо даўно. На самай справе ўсё аказалася значна прасцей. У гэты дзень грэка-каталікі з розных месцаў Беларусі і госці з-за мяжы з'ехаліся ў горад над Бугам на святкаванне заключнай урачыстасці 400-годдзя Берасцейскай уніі. Перапалоханыя "вертыкальшчыкі" накіравалі ў крэпасць міліцэйскія сілы, бо баяліся, каб уніяты не наладзілі працэсіі ад крэпасці, на тэрыторыі якой знаходзілася Святамікалаеўская царква, дзе ў 1596 годзе быў падпісаны заключны акт уніі Праваслаўнай Царквы Вялікага Княства Літоўскага з Рымам, да касцёла, дзе павінна была адбыцца ўрачыстая літургія.

А некалькімі днямі раней уладамі быў арыштаваны пробашч мясцовай грэка-каталіцкай парафіі айцец Ігар Кандрацьеў, берасцейскі студэнт Янка Чурыловіч і ўкраінец Алексій Лічковах. 24 лістапада пасля літургіі айцец Ігар прывёз хлопцаў, якія з'яўляліся назіральнікамі за ходам правядзення рэферэндуму, на выбарчы ўчастак. Імі былі выяўленыя масавыя фальсіфікацыі вынікаў галасавання, і, як гаворыць святар, загад аб іх арышце аддаў асабіста прэзідэнцкі даручэнец "майстар гранатамётнай стральбы" В.Кучынскі. Айца Ігара і спадароў Лічковаха і Чурыловіча адвезлі ў міліцэйскі пастарунак, дзе пратрымалі ад двух да чатырох дзён. На ўсіх была заведзеная крымінальная справа і прад'яўленае абвінавачванне ў злосным хуліганстве. Толькі дзякуючы пратэстам дэмакратычнай грамадскасці Бярэсця, а таксама ўмяшанню амбасады Украіны арыштаваных удалося вызваліць. Алексій Лічковах быў перапраўлены на Украіну, а Янка Чурыловіч апынуўся ў Варшаве, дзе быў вымушаны папрасіць палітычнага прытулку. Яго зварот да польскага ўрада транслявала 1-я праграма тэлевізіі суседняй краіны. Айцец Ігар Кандрацьеў з'язджаць нікуды не збіраецца і будзе дамагацца адкрытага суда. Бадай упершыню са сталінскіх часоў у Беларусі святар падвяргаецца палітычным рэпрэсіям такога характару. Факт сам па сабе красамоўны. Ён найлепей характарызуе стан правоў чалавека ў сённяшняй Беларусі і "дэмакратычнасць" цяперашняга рэжыму.

А святкаванне ў Бярэсці адбылося нават і ў такіх умовах. У крэпасці прайшло жалобнае набажэнства ў памяць аб усіх уніятах, якія цярпелі пераслед і нават панеслі пакутніцкую смерць за сваю веру і справу еднасці хрысціянаў. Набажэнства адправілі дэкан грэка-каталікоў Беларусі айцец Ян Матусевіч, айцец Казімір Ляховіч і госць са Львова айцец Язафат Варатняк. Дарэчы, з Украіны прыехала вялікая група духавенства і манашак. На працягу тыдня яны адведвалі ўсе грэка-каталіцкія парафіі Беларусі і напрыканцы свайго падарожжа завіталі ў Бярэсце. Госці былі прыемна здзіўленыя ростам уніяцкай царквы ў нашай краіне. Пілігрымка была арганізаваная старшынём місійнага таварыства св. Кірыла і Мятода панам дэ Вольфам з Нямеччыны, які ўжо некалькі гадоў дапамагае каталіцкім цэрквам візантыйскага абраду ў краінах Усходняй Еўропы. Пасля ў мясцовым касцёле прайшла святочная літургія, удзел у якой узялі звыш сотні вернікаў з Бярэсця, Менска, Гародні, Полацка і Львова. Яе адправілі біскуп-ардынарый Перамышльска-Варшаўскай дыяцэзіі Ян Мартыняк, апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, візітатар беларускіх грэка-каталікоў архімандрыт Сяргей Гаек у саслужэнні двух дзесяткаў святароў лацінскага і ўсходняга абрадаў.

З казаннем да вернікаў звярнуўся монсіньёр Грушоўскі. І хаця нунцый гаварыў па-славацку, вернікі амаль цалкам зразумелі яго словы. Ісус Хрыстос з'яўляецца нашай дарогай, праўдай і жыццём, сказаў высокі дастойнік. "Чатырыста гадоў таму ерархі нашай Царквы зразумелі, як важна хрысціянам быць разам, а нам далей працягваць іх справу", — дадаў ён. Варта адзначыць, што сваё славенства ўдзельнікам свята даў сам папа Ян Павел II, які нядаўна прыняў кіраўнікоў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы айцоў Сяргея Гаека і Аляксандра Надсана. А пасля службы сіламі мясцовай уніяцкай грамады быў наладжаны святочны канцэрт.

**А. Н.**

## ВЕРНІКІ ПРАТЭСТУЮЦЬ СУПРАЦЬ ПАДАТКОВАЙ НЕСПРАВЯДЛІВАСЦІ

Нядаўна ў Жодзіне адбылася акцыя пратэсту праваслаўных вернікаў, прыхаджанаў мясцовых цэркваў святога Архангела Міхаіла ды іконы Божай Маці "Збавіцелька", супраць дзеянняў гарадской падатковай інспекцыі. Вядомы святар і рэдактар "Царкоўнага слова", благачынны ў Смалявіцкім раёне, айцец Алексій Шынкевіч згадзіўся патлумачыць сітуацыю нашаму карэспандэнту.

— Сапраўды больш за сто вернікаў царкоўнага прыходу святога Архангела Міхаіла і другога прыходу ў нашым горадзе — у гонар іконы Божай Маці "Збавіцелька" ўзялі ўдзел у акцыі пратэсту супраць цкаванняў з боку падатковай інспекцыі, — адразу ж пацвердзіў Алексій. — Трэба адзначыць, што ў апошні час паўсюдна чыніцца ціск падатковых службаў супраць царкоўных суполак. Без усялякіх тлумачэнняў і падстаў закрываюцца разліковыя рахункі нядаўна зарэгістраваных прыходаў, накладваюцца мільённыя штрафы, прымяняюцца розныя адміністрацыйныя ўздзеянні і санкцыі.

**— Але ж цяперашняя дзяржава сёння больш чым цёпла адносіцца менавіта да Праваслаўнай Царквы.**

— Дзіўна, аднак факт фактам застаецца: гэта ўсё робіцца ў той час, калі на самым высокім узроўні сведчыцца павага на словах да Праваслаўнай Царквы. Само сабой, ад яе і ад вернікаў патрабуецца маральная падтрымка і дапамога дзяржаве ў яе пэўных палітычных мерапрыемствах. Але народ веруючы ўспрымае ўсе гэтыя націскі, як хвалю новых ганенняў на Царкву. Бо Царква жыве толькі на ахвяраванні простага народа. Яе ж ніхто не падтрымлівае фінансава. Так што пратэст быў поўнасцю маральна апраўданым...

**— Ці не лічыце Вы, што падобныя цкаванні носяць пэўны палітычны характар?**

— Магчыма. Верагодна, хтосьці хоча напомніць Царкве: маўляў, яна не павінна быць абыякавай да маючых уладу, маўляў, тады яна таксама нешта атрымае ад дзяржавы. Гэта асабліва актуальна зараз, калі наша Царква аднаўляецца, калі ёй патрэбныя сродкі. Асабліва на рамонты і будаўніцтва храмаў.

**— Згадваючы пра замах на Ваша здароўе, што мела месца некалькі год таму, міжволі прыходзіш і да вось такой думкі: можа, персанальна айцец Алексій Шынкевіч, які сёння з'яўляецца не толькі святаром, але і рэдактарам папулярнага штомесячніка "Царкоўнае слова", дзе частка матэрыялаў друкуецца на беларускай мове, дзе згадваецца гісторыя цкаванняў і ганенняў на беларускіх святароў пад час камуністычнага панавання, дзе выказваюцца смелыя думкі і ў адрас цяперашняй улады, дык вось, можа, грамадзянін Шынкевіч некаму перашкаджае?..**

— Усё гэта можа быць. Мне і Уладыка кажа, што я — чалавек не вельмі паслухмяны. Я заўсёды адказваю: я — святар, я, перш ад усяго, імкнуся да таго, каб растлумачыць людзям Хрыстову палітыку. І я не займаюся палітыкай у звычайным разуменні гэтага слова і не падтрымліваю нічога, акрамя аднаўлення 1000-гадовых праваслаўных хрысціянскіх традыцыяў. Адсюль на месцах магчымая варожасць да мяне. Тым больш, я не толькі настаяцель пэўнага прыходу, але ж яшчэ і благачынны Смалявіцкай царкоўнай акругі і ў маім духоўным падпарадкаванні больш 14-ці новых прыходаў. Усе яны сваё царкоўнае жыццё пачынаюць з нуля, вельмі цяжка будуюць храмы. Таму святару сёння трэба мець мудрасць і цярпенне, каб ладзіць не толькі з Богам, але і з уладамі. І ладзім, як толькі можам, аднак і ў цярплівасці бываюць свае межы.

**— Ці зразумелі Вас, у рэшце рэшт, жодзінскія ўлады, падатковая інспекцыя?**

— На вялікі жаль, не зразумелі. Ні старшыня гарвыканкама Валерый Кашэўскі, ні кіраўнік інспекцыі ад сваіх прэтэнзій не адступіліся, хаця згодна закона, які рэгламентуе рэлігійную дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь, ахвяраванні, з дапамогай якіх жыве Царква, не павінны абкладвацца падаткамі. Мяне папракнулі ў тым, што я дазволіў акцыю пратэсту сваім прыхаджанам у самы нязручны час — час падрыхтоўкі да рэферэндуму, а мясцовы аддзел міліцыі вынес мне афіцыйнае папярэджанне, бо наша акцыя была недазволеная ўладай. Так, ёсць закон, але ёсць розныя чыноўнікі, якія яго па-рознаму тлумачаць. І я не разлічваю, што падатковая інспекцыя верне нам 10 мільёнаў рублёў сёлетняга штрафу. Шкада, што чынавенства і ўлады не разумеюць: людзі на сталяванне праваслаўнай веры, аб прыхільнасці да якой заявіў сам Прэзідэнт, аддаюць апошнія капейчыны са сваіх сціплых пенсій, стыпендый і заробкаў.

**Заўвага журналіста**. Як пракаментаваў паводзіны Жодзінскай падатковай інспекцыі старшыня Менскага абласнога Савета дэпутатаў Альфонс Цішкевіч, такія паводзіны разумнымі нельга назваць. Ён запэўніў, што пастараецца разабрацца з гэтым прыкрым выпадкам, заявіў, што выпадак нетыповы для ўзаемаадносінаў між уладамі і Праваслаўнай Царквой на тэрыторыі сталічнай вобласці.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ.**

